Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 35 22- 28 снежня 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Каталікоў і пратэстантаў усіх канфесій са светлым святам Калядаў віншуе "Рэгіянальная газета"!



## Думай, начальнік, думай

*АСТРАВЕЦ. Шляхі вырашэння спосабаў аплаты працы на кожным прадпрыемстве, у калгасах шукаюць па-рознаму.*

Так, у прыватнасці, праўленне калгаса імя Чапаева вырашыла разлічыцца з калгаснікамі мясам. Балазе, у гаспадаркі ёсць свой свінакомплекс. Многія гаспадаркі і зусім мяркуюць выдаваць зарплату за жнівень- кастрычнік збожжам новага ўраджаю.

Інакш выглядае сітуацыя на НВА "Бел-Ост". Пра зарплату рабочыя тут забыліся наогул, бо апошні раз яе даводзілася атрымаць ажно ў красавіку. Цяпер рабочыя толькі прыходзяць на працу, а кіраўніцтва думае, як разлічыцца з імі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ**

Архівы сведчаць

## Тайна забойства ля Страчанкі

Раніца 11 чэрвеня 48-га г. для Пятра Дыганава была шэрай. Рабочыя доўга чакаюць зарплату. Няма грошай на працяг будаўніцтва цагельні ў вёсцы Кісялі. А тут яшчэ з жонкай нелады...

–Ганчарова не бачылі?– спытаў дырэктар у канторы. Ужо з раніцы тут натоўп людзей.

–Пётр Іванавіч, дык калі грошы будуць?

–Хлопцы, сёння ў банк еду. Без грошай назад не вярнуся.

Хударлявы 22-х гадовы бухгалтар Клюшанскага цагельнага завода Віктар Блахін жыў на кватэры ў Петрашышках. Дыганаў падняў яго з ложка.

–У банк едзем. Заводскі конь запрэжаны, а ты ўсё спіш,– і між іншым:– Ганчароў начаваў тут?

–Так. Са мною разам, у кухні,– няўпэўнена адказаў хлопец. А навошта ён табе?

–Застаецца за галоўнага твой сябар. Распараджэнні трэба даць.

З завода яны выехалі ў 9. Заскочылі па дарозе на хутар Чорная Лужа да работніка, які з-за хваробы не выйшаў на работу. І праз Сухарышкі, Трашчаны, Жэлядзі, Страчанку ехалі ў Свір.

Мясціна адраджаліся пасля вайны. Вакол ішла будоўля. Туды-сюды соўгаліся фурманкі дарожнага будаўніцтва.

–Лідачка, грошы патрэбны,– звярнуўся да інспектара свірскага банка Дыганаў.– Я сёння буду да перамогі....

–Грошай няма. Чакайце. Праз дзве гадзіны павінны выручку прынесці.

–Я тут буду. А ты ідзі да цешчы, каня распрагай,– наказаў Блахіну дырэктар.

Цешча Дыганава жыла ў Свіры. Бухгалтару часта даводзілася бываць у яе, калі раам з дырэктарам яны прыязджалі ў банк. Ён добра ведаў усё сямейства Белікавых.

Ля хаты сустрэў Андрэя, роднага брата дырэктарскай жонкі Аніссі. Яго напярэдадні звольнілі з міліцыі. Размова была непрыемнай і Блахін насцярожыўся..

Выручку ў банк прынеслі перад самым закрыццём на абед. Пайшлі да Фядоссі Белікавай. Цешча накрыла стол, прынесла аднекуль для зяця гарэлкі. Разам з пастаўскім рыбным інспектарам Шчарбаковым за размовай пра вытворчыя праблемы, няхватку грошай прабавілі гадзіну.

Утраіх Дыганаў, Блахін і Шчарбакоў прыйшлі ў банк. Грошы атрымалі па двух чэках. 6147 рублёў па разліковаму і 13143–на будаўніцтва. Дырэктрар радасна паціраў рукі:

–Цяпер справа пойдзе!

Чамусьці Дыганаў не паклаў грошы ў партфель з дакументамі, які быў у бухгалтара, а так і нёс іх ў руках.

–Цешча, дай што-небудзь. Грошай шмат.

Фядосся знайшла невялікую белую насыпку. На гэты момант Андрэй быў у хаце. Незадаволена ён адказаў на прывітанне Дыганава:

–Беспрацоўны я цяпер. Справы дрэнныя.

Блахін прыспешваў дырэктара ехаць.

–Я...што? І каня павінен запрагаць?– агрызнуўся Дыганаў.–Як запражэш, так і паедзем.

Але да дому яны накіраваліся не адразу. Удваіх на кані яшчэ заехалі ў свірскую шавецкую майстэрню "Ударная праца". Па безнаяўнаму разліку набылі 5 пар скураных ботаў. Забралі акумулятар з рамонту. Ды ў мясцовай сталоўцы распілі бутэльку гарэлкі, закусілі смажанінай. У сем рублёў абыйшлася вячэра. Толькі пасля, каля 19 гадзін вечара, выехалі з мястэчка.

Да Марыі Радзівонавай Дыганаў кожны раз заязджае зваротнай дарогай з Свіра. Каб каня накарміць. У гэты раз таксама.

–Марыя, ідзі да мяне працаваць,– у чарговы раз прапанаваў ён жанчыне. –20 рублёў у дзень атрымліваюць рабочыя на заводзе. Бачыш, колькі грошай. Ім вязу.

Не давёз. Паміж Страчанкай і Чорнай Лужай фурманку спыніў бандыт.

–Стой! Страляць буду.

Два выстралы спудзілі каня і ён з дарогі звярнуў у жыта. Дыганаў і Блахін саскочылі, пабеглі без аглядкі. Толькі белы мех з грашыма выдзяляўся пад пахай дырэктара.

Выбеглі на тую ж дарогу.

–Я вас не параніў? – запытаўся бандыт. –Аддавайце грошы...

–Ах ты, гад...! –раз'юшаны Дыганаў пайшоў насустрач.

Яны не доўга тузаліся. Стрэл у грудзь быў смяротны.

Бандыт з грашыма знік у лесе. Блахін разгублена чакаў хвіліну-другую. Потым таксама пабег. Але ў другім накірунку.

**Святлана САРОКА**

Матэрыял друкуецца на падставе сапраўдных падзей і дакументаў Маладзечанскага філіяла Дзяржаўнага архіва.

*(Працяг будзе)*

Сумны рэпартаж

## Пагранічнікі з-пад Смаргоні

*Дарога на Смаргонь добра знаёмая. Па ёй кіравалі маладзечанцы за прадуктамі ў час перабудовачных рэформ. Мэта маёй камандзіроўкі— Смаргонскі пагранічны атрад, а гэта значыць, што ад горада яшчэ дзесяць кіламетраў трэба ехаць па старой Віленскай дарозе. А калі ты едзеш "аўтобусам" нумар адзінаццаць (свае дзве нагі) і, лічыце, –10 па Цэльсію, на прыгожыя краявіды мала звяртаеш увагі. Але што тая няўдалая вандроўка, калі я пазнаёміўся на месцы прызначэння з адукаваным, інтэлігентным чалавекам, падпалкоўнікам Віктарам Уладзіміравічам Мішчуком— начальнікам аддзела падрыхтоўкі і выхавання асабістага саставу, намеснікам камандзіра пагранічнага атрада:*

–Атрад існуе з лістапада 1992 года, калі паўстала неабходнасць несці службу на беларуска-літоўскай мяжы. Само ўпраўленне атрадам знаходзіцца на месцы былых войск стратэгічнага прызначэння, якія сталі падпарадкоўвацца Расіі, зняліся з месца, а нам пакінулі добраўпарадкаваную тэрыторыю, цёплыя казармы. Ну, не паспелі разрабаваць– што зробіш.

**–Віктар Уладзіміравіч, сёння на старонках маладзёжнага друку ідзе размова аб патрыятычным выхаванні падлеткаў. Я разумею патрыятызм, як любоў да айчыны, неабходнасць стаць на яе абарону. Можа, з часам трансфармавалася гэта паняцце?**

–Я так не лічу. Можа, крыху прытупілася. У экстрэмальнай сітуацыі яно "праявіцца" ва ўсю сваю моц. Яшчэ патрыятызм– гэта пачуццё адказнасці за справу, якую робіш. Як прыклад, нашы пагранічнікі затрымалі груз на 120 тысяч долараў, які спрабавалі вывезці кантрабандай. Салдатам абяцалі хабар у валюце, але тыя вялі сябе, як патрыёты, не спакусіліся, зрабілі ўсё суадносна інструкцыі.

**–Што важней: выхаваць патрыёта ці падрыхтаваць кваліфікаванага спецыяліста ваеннай справы?**

–Асновы патрыятызму павінны закладвацца ў сям'і. Армія падрыхтоўвае спецыяліста і развівае гэтую якасць аднвчасова.

**–Служба- службай, а абед па раскладу. Дзе абедаюць афіцэры, ці забяспечаны яны жыллём?**

–Гэта праблема з праблем. У чарзе на атрыманне жылля ў атрадзе стаіць 76 чалавек. За тры мінулыя гады ў новыя кватэры засяліліся 14 сем'яў. Калі ўсё гэта будзе ісці такім тэмпам, апошні атрымае кватэру ў 2020 годзе. А нам сёння патрэбны спецыялісты: афіцэры, якія закончылі каманднае вучылішча, афіцэры-выхавацелі асабістага саставу, прапаршчыкі, якія будуць служыць сумленна, а не дзеля таго, каб палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Мы будуем жылле на долевым удзеле за сродкі Галоўнага ўпраўлення пагранічных войск. У Смаргоні наогул нічога не будуецца, няма да каго далучыцца. Напрылад, я стаю на чарзе сорак першым. У канцы дзевяноста шостага года заканчваецца мой кантракт, магчыма, падам на звальненне. За месяц атрымліваю каля двух мільёнаў– усе заробкі на сям'ю. Жонка па спецыяльнасці банкаўскі служачы, не можа працаўладкавацца. 160 тысяч ідзе на аплату кватэры. Скончыўшы ваеннае вучылішча, ваенную акадэмію ў Маскве, вымушаны эканоміць на самым набходным.

**–Жонкі ваеннаслужачых не могуць знайсці сабе прымяненне ў Смаргоні?**

–Маюць работу працэнтаў дваццаць пяць. Астатнія гадуюць дзяцей, чакаюць сваіх мужоў з работы і спадзяюцца на лепшае жыццё.

**–У "табелі аб рангах" пагранічныя войскі ў першым раду?**

-Тут розныя вагавыя катэгорыі. Але, я мяркую, значнасць пагранічнікаў вышэй, чым салдатаў іншых войск.

**-Колькі зарабляе салдат тэрміновай службы і салдат-кантрактнік?**

–50-100 тысяч у залежнасці ад пасады.– Калі салдат тэрміновай службы, але яна заканчваецца, хлопцы, атрымаўшы спецыяльнасць, падпісваюць кантракт. Зарабляюць тысяч 800. А наогул кантракты падпісваюцца на 2-3-5 год у залежнасці ад катэгорыі ваеннаслужачых.

**–Колькі у вас у атрадзе былых афіцэраў-ракетчыкаў Савецкай Арміі?**

–Працэнтаў пяцьдзесят. Яны прайшлі неабходную перападрыхтоўку. Куды ехаць, калі тут дзяржаўная кватэра, сябры, ужо пушчаны карані.

**–Што чакаеце асабіста для сябе ў наступным годзе?**

–Вельмі празаічнае жаданне: жыллё і работу для жонкі.

**–Хай Вам пашанцуе.**

–Пастукайце па дрэву.

*Па дрэву стукаў*
**Васіль САВІЦКІ**

Нашы захапленні

## Я намалюю Ваш партрэт

***У Ашмянах на рынку ёсць звычайны пункт абмену валюты са звычайнымі валютчыкамі вакол яго. З адным з іх я пазнаёміўся, ну а калі быць больш дакладным, мне параілі гэта зрабіць.***

Віктар Скокаў, назавем яго так, валютчык па прафесіі і мастак па захапленню. Знакаміты ён тым, што ў вольны час працуе над трыпціхам: "Рынак раніцай, у поўдзень, вечарам". Малюе алеем на палатне (100x60 см) сваіх сяброў мяняльшчыкаў за работай на працягу ўсяго дня. Робіцца гэта дзеля таго, каб сказаць грамадскасці: "Паважайце нас, валютчыкаў, нервовая работа з рызыкай для жыцця".

Віктар Скокаў:

–Больш выразна я хачу адлюстраваць твары, паказаць на іх радасць, напружанне, самоту. А трыпціх падару раённай бібліятэцы, якая рыхтуецца сустрэць свой юбілей.

**Васіль САВІЦКІ**

Старасць— не радасць

## Эх, пажыць бы ў маёнтку

***Старадаўняя пабудова-будынак у вёсцы Каменка Астравецкага раёна яшчэ нядаўна належала мясцоваму заводу "Радыёдэталь". Аднак ён быў вернуты на баланс Астравецкай райбальніцы.***

Цяпер тут мяркуецца зрабіць бальніцу сястрынскай дапамогі. Падрыхтавана ўжо і неабходная дакументацыя на рэканструкцыю, а будынак, між іншым, уяўляе сабой яшчэ і помнік архітэктуры.

Аднавіць яго ў першапачатковым выглядзе, напэўна, немагчыма, бо патрэбны немалыя грашовыя сродкі, а вось іх зараз і няма ў мясцовых улад. Зрабіць жа пабудову зручнай для пражывання адзінокіх састрэлых– можна. Але і на гэта грошы патрэбны.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ**

Юбілей

## Шануюць памяць

*ВАЛОЖЫН. У снежні споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Фердынанда Рушчыца, беларускага жывапісца, графіка, тэатральнага дырэктара і педагога. З вёскай Багданава Валожынскага раёна звязана таксама жыццё гэтага чалавека, цудоўныя работы якога знаходзяцца ў Дзяржаўным музеі рэспублікі, у іншых карцінных галерэях блізкага і далёкага замежжа. Тут, на багданаўскай зямлі, знайшоў ён апошні прытулак.*

Дзеці Фердынанда Рушчыца разляцеліся па свеце: адзін сын жыве ў Амерыцы, астатнія– у Польшчы. Дачка, якая жыве ў Варшаве і працуе ў мастацкім музеі, выдала цудоўную кнігу-альбом пра бацьку, пра яго творы.

А калі прыязджаюць дзеці на сваю маленькую радзіму ў Багданава, абавязкова запрашаюць на сустрэчу Марыю Восіпаўну Ясенчак. Яна некалькі гадоў працавала ў маёнтку Рушчыцаў, а таму жанчыне ёсць што ўспомніць....

*Наш кар.*

Крымінал

## 70 мільёнаў... за вечар

***Трыццаціпяцігадовы жыхар вёскі Рагазы Юрый Кляміціч, відаць, добра знаёмы маладзечанцам як уладальнік шматлікіх гандлёвых пунктаў. Шыльду з гэтым прозвішчам часта можна заўважыць на кіёсках і выязных прылаўках Маладзечна.***

У мінулую нядзелю яго прыватны бізнес сутыкнуўся з рабаваннем. Загадчыца склада і касір (у адной асобе) Юлія Анікіна як звычайна вечарам 17 снежня збірала дзённую выручку. Разам з іншымі работнікамі прыватнага прадпрымальніка, аб'язджаючы на машыне пункт за пунктам, згарталі гандаль і збіралі непрададзены тавар.

Гэтая ж машына прывезла дадому і яе мужа, які таксама працуе ў Кляміціча грузчыкам. У гаспадарчай сумцы Анікінай на гэты момант ляжала каля 70 мільёнаў рублёў. Вялікую выручку большай часткай склаў продаж амаль 8 тон цукру.

Тры злачынцы, напэўна, мелі рацыю. Яны напалі на касіршу з мужам каля кватэры. У пад'ездзе было цёмна. Як сведчыць Анікіна, злачынцы ўдарылі мужа нечым цяжкім па галаве. Выхапілі сумку і зніклі.

Следчы Маладзечанскага ГРАУС Андрэй Герасімаў кажа, што асобы непасрэдных удзельнікаў нападу і месца знаходжання украдзеных грошай пакуль не вызначаны.

**Святлана САРОКА**

